**Пятрусь Граніт**

## РУЧАЁК

*Я — ручай, ручаёк.*
*Я з крынічкі пацёк.*
*Як праз поле пабег,*
*Многа бачыў пацех.*

*Каласкі збажыны*
*Нада мной шапталі,*
*Заплывалі ціха ў сны*
*Зорачак крышталі.*

*А прыбег на лужок,*
*Там густы муражок,*
*Белыя каліны,*
*Вырай жураўліны.*

*А праз лес я пацёк,*
*Кожны лісцік — цянёк,*
*А ні сонца, ні зор, —*
*Цёмны бор, змрочны бор!*

*Я ж бягу з-пад гары,*
*Спяшаюся ў Прыпяць,*
*А ў бары тым звяры*
*Могуць мяне выпіць!..*



## ЖУК-КАРАЕД

*— Гэй ты, жук-караед,*
*Што ў цябе на абед?*
*— Ну, вядома, кара:*
*Снедаць-есці пара!..*
*А тут дзяцел ляцеў,*
*Ён на хвойку прысеў,*
*Стаў глядзець, меркаваць,*
*Як лясок ратаваць.*
*Дзеўбануў: — Тук-тук-тук!*
*Уцякай, хцівы жук!..*
*Будзе хвойка расці,*
*З ветрам песні гусці.*



## СВІНКА Ў ЛАЗНЮ ХАДЗІЛА...

*Свінка ў лазню хадзіла*
*І забылася мыла.*
*У лужы праляжала.*
*— Памылася, — сказала.*

*Як прыйшла яна дахаты,*
*Не пазналі парасяты.*
*Аж сама здзівілася:*
*— Я ж у лазні мылася!..*

## СВЕТЛЯЧОК

*Светлячок, светлячок*
*Зорачкай мігоча,*
*Запаліў ліхтарок*
*Купальскае ночы.*

*У рукі возьмеш,*
*Не пячэ.*
*Панасі яго*
*Яшчэ!*





## ЗАЙЧЫКАЎ ХЛЕБ

*Жыве сабе ў полі*
*Спагадлівы зайчык,*
*Каго ні сустрэне,*
*Дасць хлеба акрайчык.*

*Вяртаюцца з поля*
*Мама і тата*
*І зайчыкаў хлеб*
*Мне прыносяць дахаты.*

## ЦВЫРКУН

*Дзень спякотны дагарае,*
*Хтосьць на скрыпачцы іграе.*
*А хто гэта? Адгадай.*
*Не знайсці, і не шукай.*

*То пілікае цвыркун,*
*Не шкадуе новых струн*
*І на скрыпачцы сваёй*
*Вытылінквае — а-ёй!*

*Цвірлі-цвірлі, цвірлі-лей, —*
*Галасней і галасней*
*Ноч да ранішняй зары...*
*Што іграе?.. Разбяры!..*



## ВЕРАБЕЙЧЫК

*Верабейчык — ціў, ціў, ціў! —*
*Пад страхой гняздзечка звіў.*
*Рада Люда, і я рад,*
*Што займелі вераб'я.*

*Скача ён, як па драбінках,*
*Па танюсенькіх галінках*
*І спявае: — чык-чырык —*
*У гняздзе я жыць прывык.*

*І казаў яшчэ ён Людзе,*
*Што ў гняздзе яечка будзе.*



*Люда кожны дзень і я*
*Даглядалі вераб'я.*

*Мы гнязда не разбуралі*
*І яечак не чапалі,*
*Тыдняў некалькі прайшло,*
*У гняздзечку загуло...*

*Крошкі мы малым насілі,*
*Мы іх мушкамі кармілі,*
*Ды праз тыдні тры ці болей*
*Вераб'і шугнулі ў поле.*
*Рада Люда, рад і я:*
*— Во якая ў нас сям'я!..*

Р. Няхай

# Франтавы шафёр

Выхаванец палка светлавалосы хлопчык Міхаська разам з усімі ўдзельнічаў у вызваленні Беларусі.

Калі пасля артылерыйскай падрыхтоўкі была прорвана лінія нямецкай абароны, полк, знішчаючы асобныя групы немцаў, пачаў хутка набліжацца да ракі Бярозы. Апоўдні полк разбіў групу фашыстаў, што хаваліся ў хмызняку недалёка ад дарогі. Тут жа, уткнуўшыся ў канаву, стаяла легкавая аўтамашына. Палкавы разведчык Буглака ўзяўся аглядаць яе, праверыў матор. Машына была на поўным хаду.

Міхаська скеміў, у чым тут справа, і пачаў памагаць разведчыку, нібы што разумеў у тэхніцы. Пасядзеў на пярэднім сядзенні разам з Буглакам, паспрабаваў нагой скаты, як гэта рабілі шафёры, і ўдвух яны пайшлі дакладваць маёру, што машыну можна выкарыстаць.

— Выцягвайце яе на дарогу і даганяйце полк, — загадаў маёр.

Яны пылілі па дарозе, на якой толькі што закончыўся бой. Гітлераўцаў выбілі з вёскі, і салдатам быў дадзены адпачынак.

Машына спынілася каля штаба. Міхаська вылез з яе, нібы вялікі начальнік, і з заклапочаным выглядам пачаў корпацца ў багажніку. У гэты час разам з салдатамі на ганку стаяў даўні Міхаськаў сябар тэлефаніст Чыжык. Ён пачаў смяяцца:

— Наш Міхаська, відаць, хоча стаць франтавым шафёрам. — Бачыце, як вымазаўся, нібы той трубачыст.

Міхаська пачуў гэтыя кпіны, пакрыўдзіўся:

— Франтавым шафёрам, можа, я і не буду, але вадзіць машыну навучуся. А цябе, Чыжык, хоць ты і мой таварыш, да машыны і блізка не падпушчу. Наконт падвезці таксама не думай...

З гэтага часу Міхаська не адыходзіў ад машыны. Сядзе абедаць, сербане некалькі лыжак, ускочыць з месца, нацягне пілотку і кажа:

— Я пайшоў да машыны. Больш нідзе мяне не шукайце.

Міхаська прывыкаў да руля, прыглядаўся да матора і цешыўся думкай, што хутка ён самастойна павядзе машыну. У багажніку ляжаў яго рэчавы мяшок, знаходзіліся рэчы маёра і іншых афіцэраў. Так што і адказнасць у Міхаські за машыну павялічылася.

Часамі падкоцяць яны з Буглакам на машыне да маёра, Міхаська адчыніць дзверцы і запрашае:

— Сядайце, таварыш маёр Аляксей Іванавіч, падвязём.

Яны хутка аб'едуць калону, нагадуць парадак, а Міхаська радуецца:

— Во як трэба ваяваць! Немцы ўцякаюць, што і на машыне не дагоніш...

Толькі да Чыжыка Міхаська быў бязлітасны: ні разу не падвёз.

У спякотны летні дзень полк спыніўся на прывал у вялікай вёсцы з садамі і агародамі. Запыленыя і прапахлыя потам салдаты згрудзіліся каля студняў: абліваліся вадой, мыліся. Да іх далучыліся Міхаська з Чыжыкам, раздзеліся да трусоў.

— Давай палівай, не растанеш!

— От гэта душ! Нібы два пуды скінуў! — чуліся галасы.

Нельга сказаць, каб Міхаська баяўся вады. Ён любіў купацца, рыбу вудзіць. Але ж гэта адно. А сцюдзёная вада з глыбокай студні зусім іншае. Ён усё ніяк не мог адважыцца падставіць сваё цела пад халодны душ. Чыжык і Буглака гэта заўважылі, напоўнілі вёдры вадой і пачалі падкрадацца да Міхаські ззаду, каб абліць яго. Той трымаў вуха востра і ўпотай сачыў за кожным рухам Чыжыка. І калі небяспека была побач, сарваўся з месца і даў такога драпака, што толькі пачарнелыя пяткі замільгалі ў паветры. Спачатку ён забег у суседні двор. Чыжык з вядром — за ім. Міхаська махнуў цераз плот і апынуўся ў агародзе, густа зарослым крапівою. Яна балюча апякла яго. Хлопчык ускочыў, як апараны, і хацеў закрычаць, але стрымаўся. Яго зыркае вока заўважыла ў бур'яне двух параненых немцаў. А Чыжык з вядром увайшоў праз брамку і са смехам накіраваўся да яго.



— Не трэба, Чыжык, — пачаў прасіцца Міхаська. — Тут немцы!

Прыбеглі салдаты з аўтаматамі, забралі немцаў, а Міхаську, спацелага, з белымі пухірамі на целе, павялі ў санчасць. Хлопчык ледзь трымаўся на нагах. У санчасці яго нечым змазалі, загарнулі ў беласнежную прасціну і паклалі ў пасцель. Ён ляжаў і думаў: „Як жа цяпер вярнуцца да сваіх? Асароміўся на ўвесь полк. Хоць вачэй не паказвай...“ З другога боку шукаў апраўданне: „Хай сабе і так. Але ж ён знайшоў двух палонных. Няўжо гэта не будзе ўлічана? І з яго перастануць смяяцца.“

У штаб ён вярнуўся пасля абеду, паспрабаваў сесці, але не змог: яшчэ не сышлі пухіры.

— Табе, Міхаська, цяпер толькі вісець у паветры! — нязлосна заўважыў Чыжык. — Як жа ты будзеш у машыне сядзець?

— Гэта мы яшчэ паглядзім. А цябе не толькі да машыны не падпушчу, але і спаць з табой не буду.

— Давай лепш сметанай змажу. Можа, ачуняеш, — не адставаў Чыжык.

Міхаську нават не хацелася спрачацца, бо што зробіш? Здарылася непрыемнасць. З кім гэтага не бывае? Затое як узрадаваўся Міхаська, калі ўбачыў, што Буглака заводзіць машыну! Хваробу як рукой зняло. Ён мігам скінуў з сябе плашч-палатку і кінуўся да машыны. Разам з Буглакам яны ўзяліся праціраць яе, аглядаць з усіх бакоў.

— Як, пячэ? — пацікавіўся Буглак.

— Не! — адказаў Міхаська. — Усё прайшло. Куды паедзем?

— На запраўку. Сядай!

Яны пусціліся ўздоўж вуліцы, і тут Міхаську прыйшла ў галаву думка: „А што, каб папрасіць руля? Тут можна. Вуліца роўная.“

*Працяг у наступным нумары.*



# ПАГЛЫБЛЯЙ


# СВАЕ ВЕДЫ


## ДЗІКАЕ ПЛЕМЯ

На невялічкім востраве Норт-Сентынел у Андаманскім моры (зона Індыйскага акіяна) жыве племя — джарва. Яно не ведае апрацоўкі зямлі, не ўмее апрацоўваць прадуктаў агнём — мяса і рыбу ядуць сырымі.

З цывілізацыяй джарва знаёмы толькі па цвіках, якія знаходзяць у абломках лодак. Цвікі высока цэняцца племем як наканечнікі для стрэлаў. Людзі джарва не ведаюць жылля, спяць пад голым небам, мова іх вельмі прымітыўная.

Доўгі час этнографы і археолагі прабавалі наладзіць кантакт з жыхарамі Норт-Сентынела. Але нічога з гэтага не выйшла. Як паведаміў індыйскі друк, апошняя спроба скончылася тым, што даследчыкаў абстралялі з лукаў. Гэта было ў мінулым годзе.

Востраў не багаты карыснымі выкапнямі, яго зямля не прыстасавана для земляробства. Іншыя народы абыходзілі яго бокам. Відаць, гэтым і тлумачыцца тое, што джарва захавалі свой нізкі ўзровень культуры. Ён, па думцы многіх вучоных, адпавядае пачатку каменнага веку.

Чаму джарва так зайздросна адносіцца да сваёй тэрыторыі? Чаму не хочуць сустракацца з чужакамі? Магчыма, далёкія продкі племені ўцяклі на акружаны рыфамі востраў пад напорам іншых, больш развітых плямён і захавалі памяць аб жорсткасці захопнікаў.

Ці можна перакана́ць варожа настроеных джарва, каб хацелі кантактавацца з намі? Ці такі кантакт не будзе небяспечны для племені? Адказ на гэтыя пытанні дадуць навука і час.

## ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНАЯ ЛІНІЯ

У Любліне аддадзена ў карыстанне новая эксперыментальная тэлефонная лінія даўжынёй у 2,5 кіламетра. Гэтая лінія не падобна ні да адной іншай, якія існуюць да гэтага часу. Справа ў тым, што замест металічных правадоў тут пакладзены кабель са шкловалакна. Для перадачы размоў выкарыстоўваюцца лазерныя праменні.

## СУПРАЦЬШУМАВЫ ДОМ

У Кіеве пабудаваны эксперыментальны супрацьшумавы дом. Усё ў ім зроблена так, каб у жылыя памяшканні пранікала як найменш шуму з вуліцы. Вакол аконных рам — дугападобныя дашкі. Ахавай ад шуму з'яўляюцца і спецыяльна сканструяваныя вертыкальныя ступені на сценах будынка. Яны таксама разбіваюць грукат і візг трамваяў і аўтамашын.

## МАЛЯР-РОБАТ

У Токіо сканструяваны маляр-робат. Гэтая машына сама адрознівае дзевяць колераў. Выпрабаванні гэты маляр-робат праходзіць на Такійскім аўтазаводзе. Ён малюе аўтамашыны. Калі раптам колер машыны змяняецца, маляр адразу ўключае сігнальную лямпачку: змяніць колер.

# Конкурс СКО падсумаваны

Пад канец навучальнага года, як ужо стала традыцыяй і адбываецца штогод, быў падсумаваны чарговы конкурс ашчаднасці для вучняў падставовых школ. Конкурс праходзіў пад лозунгам „Сёння ашчаджаю ў СКО — заўтра — у ПКО“. Удзельнічала ў сёлеташнім конкурсе 66 школ і адна гарцэрская дружына. Галоўным заданнем удзельнікаў было ашчаджаць грошы на кніжачках СКО ад 1 верасня 1978 да 31 сакавіка 1979 года: збіраць грошы і не знімаць іх з кніжачкі на працягу ўсяго гэтага часу.

У час падсумавання конкурсу былі ўзяты пад увагу наступныя справы: масавасць ашчаджаючых, сістэматычнасць пастаянства ў ашчаджанні, якасць і колькасць грамадскай працы, выкананай вучнямі на працягу года, даход з якой уплачваўся на супольную ашчадную кніжку, а таксама выхаваўча-прапагандная дзейнасць у галіне папулярызацыі ашчаджання.

Ганаровыя дыпломы за найлепшыя вынікі атрымалі падставовыя школы № 8, 15, 18, 20, 24, 25, і 33 у Беластоку, Падставовая школа № 3 у Бельску, гмінныя школы ў Чорнай Беластоцкай, ў Пашкоўшчыне, у Семяноўцы, у Міхалове і Грабаўцы. Найлепшыя ў ашчаднасці вучні атрымалі рэчавыя ўзнагароды на агульную суму 5 930 злотых. Узнагароды атрымалі таксама апекуны школьных ашчадных кас. *(яч)*



**Хор з Лубіна Касцельнага ў конкурсе „Беларуская песня-79“ для школьнікаў.** **Фота Я. Целушэцкага**

# Пазнаёмімся

* ✲ *

СССР, г. Ростов-на-Дону — 53, пос. Мясникован, ул. Атарбекова, д. 74. Кривенцовой Марине. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

Аня Семянюк, 14 год, в. Грыгораўцы 6, пошта 17-136 Грыгораўцы, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Аз. ССР, г. Баку, пос. Хурдалан, 28 квартал, дом 14, кв. 50. Кадымову Ровшану. Хлопчык вучыцца ў шостым класе.

* ✲ *

СССР, 344053, г. Ростов-на-Дону, ул. Атарбекова 55, Кодовой Елене. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

Анна Сцепанюк, в. Маліннікі, 173, пошта 17-136 Грыгароўцы, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 301114, г. Тула, Ленинский район, пос. Плеханово, ул. Заводская, д. 9, кв. 75. Рядинской Белле. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* ✲ *

СССР, Ростов-на-Дону, ул. Днепропетровская 8, кв. 42. Ногаевой Элле. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

СССР, 344074, г. Ростов-на-Дону, II пос. Орджоникидзе, ул. Днепропетровская 8, кв. 36. Литвиновой Светлане. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

СССР, 301114, г. Тула, пос. Плеханово, ул. Заводская, д. 1, кв. 6. Зыковой Ирине. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* ✲ *

Аз. ССР, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 1, кв. 63. Ничкапиным Лиле (вучаніца шостага класа) и Вике (вучаніца чацвертага класа).

* ✲ *

СССР, г. Кемерово — 18, 1 Варшавский проезд, 29. Чакелевой Людмиле.

* ✲ *

СССР, г. Кемерово — 18, ул. Ростовская 34, Петешовой Татьяне.

* ✲ *

Аз. ССР, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 1, кв. 42. Цаплеву Славику. Хлопчык вучыцца ў чацвертым класе.

* ✲ *

СССР, 335905, г. Севастополь, Крымской области, п/о Орлиное, с. Павловка. Таранец Лене. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

## АДГАДАНКА



**Колькі трохвугольнікаў у гэтым квадраце?**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**